*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# ЗВЯЗДА

22 чэрвеня 1991 г. СУБОТА

№ 121 (21649)

Цана 10 кап

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

*Орган Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР*

# 1941

# І выстаялі, і перамаглі...

**Гісторыя і лёс кожнага народа вытканы не толькі светлымі колерамі. Ёсць ніці і іншых адценняў. Адна з самых трагічных дат — пачатак Вялікай Айчыннай вайны савецкага народа супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 50-годдзе якой спаўняецца сёння.**







**Кожны з 1.418 дзён усенароднага супрацьстаяння чужынцам стаў экзаменам, жорсткім выпрабаваннем для кожнага жыхара Саюза ССР. Няма ў нас горада, мястэчка, сяла, сям'і, якія б не апаліла бязлітаснае полымя вайны, што самым жудасным чынам прайшло праз лёс кожнага.**

**Мы ўсе нешта страцілі, мы ўсе нешта здабылі, бо такой еднасці народа, такога ўздыму масавага патрыятызму, такой самаадданасці і самаахвярнасці, такой веры ў перамогу яшчэ не бачыў свет.**

**Кожны разумеў, што, абараняючы сваю годнасць чалавекам звацца, ён засцерагае іншых ад злоснай будучыні, якую рыхтаваў фашызм. У сакрэтнай інструкцыі «Ольдэнбург» адзначалася, што «...многія мільёны людзей стануць лішнімі, яны павінны будуць памерці». Яшчэ далей пайшлі верхаводы фашыстаў у цыркуляры «Ост». Там дэталёва распісвалася, колькі людзей і калі знішчыць, колькі перасяліць за Урал. Было канкрэтна ўказана, якая армія арыйцаў павінна быць накіравана на захопленыя тэрыторыі ў якасці каланізатараў, якія гарады засяліць толькі немцамі, а якія зусім знішчыць.**

**Яны і здзяйснялі сваю крывавую задуму. Напамінак аб гэтым — беларуская Хатынь і сотні падобных ёй толькі ў нашай рэспубліцы.**

**Людзі ўсіх нацыянальнасцей СССР, з'яднаўшыся, адолелі фашызм.**

**Велізарны ўклад ва ўсенародную перамогу ўнесла Беларусь. Слава абаронцаў Брэсцкай крэпасці, гераічныя дні і ночы бітвы за Магілёў, неўміручая партызанская эпапея,— усё гэта навекі ўвойдзе ў гісторыю барацьбы народа за сваё існаванне і свае жыццёвыя правы. Далёка за межамі Беларусі гучаць авеяныя легендай імёны Віктара Талаліхіна і Мікалая Гастэлы, Міхаіла Сільніцкага і Рымы Шаршнёвай, падпольшчыкаў Мінска і Обалі, — соцень тысяч іншых патрыётаў, якія наблiжалі Дзень Перамогі.**

## *Пастанова*
## *Вярхоўнага Савета Беларускай ССР*

### АБ АБВЯШЧЭННІ 22 ЧЭРВЕНЯ ДНЁМ УСЕНАРОДНАЙ ПАМЯЦІ АХВЯР ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

1. Абвясціць 22 чэрвеня днём усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.

2. У 14 гадзін у гэты дзень па ўсёй рэспубліцы аб'явіць мінуту маўчання.

3. Прапанаваць народным дэпутатам Беларускай ССР і народным дэпутатам мясцовых Саветаў паўсямесна ўключыцца ў правядзенне мерапрыемстваў, прымеркаваных да 50-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны, арганізацыі ўсенароднай барацьбы з фашысцкімі захопнікамі на зямлі Беларусі, далучыцца да правядзення маршу міру «Братэрства».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР**
**М. ДЗЕМЯНЦЕЙ.**

21 чэрвеня 1991 г.
г. Мінск.

# Зварот Прэзідэнта СССР
## у сувязі з 50-годдзем пачатку вайны

Дарагія суайчыннікі! Я звяртаюся да вас у пярэдадзень гадавіны трагічнай падзеі ў гісторыі нашай Радзімы. Паўстагоддзя назад, на досвітку 22 чэрвеня 1941 года, у жыццё савецкіх людзей уварвалася вайна. Фашысцкая Германія вераломна напала на СССР.

Вайна загубіла 27 мільёнаў жыццяў савецкіх людзей, ператварыла ў руіны тысячы гарадоў і вёсак, сцерла з твару зямлі выдатныя помнікі культуры. Прайшлі дзесяцігоддзі, выраслі новыя пакаленні, для якіх тая вайна—далёкая гісторыя. Але сумленне і пачуццё абавязку перад тымі, хто загінуў і перажыў вайну, ніколі не дазволяць забыць гэту страшную і гераічную старонку ў летапісе нашай многанацыянальнай дзяржавы. Горыч і смутак назаўсёды ўвайшлі ў памяць мільёнаў людзей.

Мы заўсёды будзем памятаць аб першых, ракавых днях вайны, днях адступлення і цяжкіх паражэнняў. Аб тых, хто прыняў на сябе першы ўдар агрэсара — змагаўся ў Брэсцкай крэпасці, на Бярэзіне, пад Ельняй, у Смаленску, затрымаў рух ворага ў Ліепаі і на Заходняй Дзвіне, адстаяў Ленінград, абараняў Адэсу і Севастопаль, насмерць стаў ля сцен сталіцы. Без іх самаахвяравання і стойкасці не было б разгрому фашысцкіх войск пад Сталінградам і на Курскай дузе. Не было б і Перамогі ў 45-м.

Мы схіляем галаву перад мільёнамі тых, хто прыняў смерць у Вялікай Айчыннай вайне. І перад тымі, аб кім ведаем, і перад тымі, хто залічаны ў спісы «прапаўшых без вестві». Усё менш сярод нас франтавікоў і тых, хто паўгалодны дняваў і начаваў ля станкоў, сеяў і ўбіраў збожжа, вадзіў пад бомбамі паязды і грузавікі, ратаваў раненых на полі бою і ў тыле. Нізкі ім усім паклон. Дзяржава і грамадства павінны выканаць свой неаплатны доўг перад гэтымі людзьмі, падтрымаць іх у няпростым сёння жыцці.

У гэты дзень я звяртаюся да воінаў Савецкай Арміі і Флоту: будзьце дастойнымі герояў Айчыннай вайны, захавайце ў армейскім асяроддзі традыцыі франтавой таварыскасці, многанацыянальнага брацтва. Савецкая Армія была і застаецца плоццю ад плоці народа. Народ і дзяржава, якія паважаюць сябе, павінны паважаць чалавека ў ваеннай форме, клапаціцца аб яго прэстыжы, матэрыяльным становішчы, сацыяльнай абароненасці. Гэта — агульнасаюзная, агульнанародная адказнасць.

Дні і ночы вайны ў дэталях апісаны гісторыкамі, у літаратуры і мастацтве адлюстраваны яе будні і галоўныя падзеі, услаўлены подзвіг герояў. Многа сказана аб уроках вайны—яны яшчэ не раз будуць прадметам аналізу і роздуму. Сёння я хацеў бы сказаць толькі аб адным—аб галоўным фактары нашай Перамогі. Гэта—небывалае па сіле і ахопу згуртаванне савецкага грамадства. Вядома, не трэба спрашчаць. Не ўсе вытрымалі, былі баязліўцы, карысталюбцы, здраднікі. Але дзесяткі мільёнаў аб'ядналіся і аддалі ўсё, што маглі, для абароны роднага дома, сваёй многанацыянальнай дзяржавы. Людзі розных нацыянальнасцей і рознага сацыяльнага становішча, камуністы і беспартыйныя, атэісты і веруючыя—яны аддалі ўсё, што маглі, на алтар Перамогі.

Гэта і цяпер—вялікі маральны ўрок для ўсіх нас. Вядома, жывём мы ў іншы час, задачы перад намі іншыя. Але, каб справіцца з імі, нам, як і тады, патрэбны ў першую чаргу салідарнасць і згуртаванасць, адзіная воля і адказнасць за лёс Радзімы. Інакш не дапамогуць ніякія праграмы, нават самыя прадуманыя і навукова абгрунтаваныя.

Дзень 22 чэрвеня напамінае аб салідарнасці і ў больш шырокім, міжнародным плане. У хуткім часе пасля пачатку гітлераўскага нашэсця на нашу краіну была зразумета неабходнасць саюзніцкіх адносін паміж СССР і дэмакратычнымі дзяржавамі Захаду. Адчуванне, што ад зыходу вайны на Усходнім фронце залежыць лёс цывілізацыі, сілкавала тую салідарную агульнасусветную сілу, якая ў выніку і нанесла паражэнне фашызму. Перамога антыгітлераўскай кааліцыі адкрыла перад чалавецтвам унікальны шанц для сумеснага руху наперад да новага, дэмакратычнага сусветнага парадку. З гэтага нарадзілася ідэя Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У яе Статуце сказана, што яна ствараецца для падтрымання міру, ліквідацыі палітычных, эканамічных і сацыяльных прычын вайны.

На жаль, гэты шанц быў упушчаны, маральна-палітычны капітал яднання народаў і дзяржаў растрачаны ў «халоднай вайне». Толькі цяпер, праз дзесяцігоддзі, перажыўшы ядзерную гонку, мы ўсвядомілі, што мір не можа асноўвацца на сіле. І пачалі разам будаўніцтва новага міжнароднага парадку.

Велізарны ўклад у гэты гістарычны паварот унеслі дзве дзяржавы, якія былі галоўнымі праціўнікамі ў той вайне, — СССР і Германія. І я хачу, каб іменна ў гэты дзень, 22 чэрвеня, мяне пачулі не толькі савецкія людзі, але і ўсе немцы.

Грамадзяне Аб'яднанай Германіі павінны ведаць, што мы цвёрда сталі на шлях сапраўднага прымірэння паміж нашымі вялікімі народамі. Верым, што савецка-германскія адносіны, якія маюць такое вялікае значэнне для абстаноўкі ў Еўропе і ў свеце, стануць прыкладам сапраўднага добрасуседства і партнёрства.

Дарагія суграмадзяне! Я ўпэўнены, што 22 чэрвеня ўсюды ў нашай краіне людзі, успамінаючы тых, хто змагаўся за Радзіму, прыйдуць да магіл і помнікаў савецкім воінам, ускладуць кветкі.

Наш чалавечы абавязак, даніна традыцыі нашых продкаў —праявіць клопаты і аб магілах замежных грамадзян, якія загінулі ў той вайне.

Прапаную 22 чэрвеня прыспусціць Дзяржаўныя флагі.

Няхай гэты дзень будзе для нас і ў далейшым Днём памінання загінуўшых на вайне і пашаны, неаплатнай удзячнасці ветэранам.

Няхай будзе ён днём салідарнасці людзей і народаў, іх згоды і згуртавання дзеля будучыні, дзеля міру на Зямлі.

*Асабістае*

# НЕ СТРАЛЯЙЦЕ Ў СВЕТЛЫ ПОМНІК!

**У паміраючай маёй вёсцы ён кожны раз сустракае мяне першым. Задрэмле, натаміўшыся, мама, забавіцца за бясконцымі справамі бацька, а ён прыветна, нязменна і нястомна свеціць светлаю сваёю паставай — Белы помнік на шэра-сталёвым фоне.**

**Тонкі профіль, просты адкрыты твар — зусім юны, спакойна-чысты, быццам многа-многа наперадзе добрага, шчаслівага, светлага. Таго, на што ўсе мы разлічваем, ідучы ў жыццё.**

**Страшна нават уявіць, што станецца з гэтым тварам, з гэтай юнай душою, маладым целам літаральна праз некалькі месяцаў. Светлы помнік перад маім домам — не бязлікі стандартна-халодны манумент воіну-вызваліцелю, якія мы так любім узводзіць паўсюдна. Тут назаўсёды застаўся Панамароў Пётр Ціханавіч, 1924 года нараджэння. Летам сорак першага яму споўнілася семнаццаць... У дзевятнаццаць ён стаў Героем. Пасмяротна.**

**У кароткай энцыклапедычнай даведцы ўся ягоная біяграфія ўмясцілася ў адзінаццаць радкоў. Ды і там — найбольш пра колькасць «адбітых танкавых контратак праціўніка...»**

**Толькі пакахаўшы, разумееш усю трагедыю няспраўджаных, жорстка адабраных надзей, па-жывому адарваных адно ад другога сэрцаў.**

**Толькі нарадзіўшы дзіця, разумееш, як страшна, ненатуральна, безвыходна — да немага крыку — яго губляць.**

**Толькі адчуўшы — не свядомасцю, а нечым самым глыбокім, трывожна-сумным у душы — тую непазбежную мяжу, што адбярэ самых дарагіх людзей, уяўляеш боль ад дачасных страт.**

**Вайна забівала іх тысячамі і мільёнамі — каханых, дзяцей, бацькоў. Ці жыве ў нас хоць маленькая часцінка жывога і глыбокага — не параднага, не аблітага шматколернасцю салютаў — разумення народнай, нацыянальнай, чалавечай трагедыі!**

**...Перад сёлетнім святам Перамогі выбралася на высокі бераг хуткай і плыннай Проні — туды, дзе трымаў апошнюю сваю абарону юны артылерыст Пётр Панамароў. За паўвека не вылечылася зямля — спаласавана ўздоўж і ўпоперак траншэямі, акопамі, зямлянкамі: фронт стаяў тут двойчы — у сорак першым і ў сорак трэцім. Але на гэты раз не пазнала знаёмых мясцін: усё перакапана. Хлапчукі шукалі снарады і порах... Страшны занятак, але не менш страшным было і другое: побач з пустымі гільзамі ад снарадаў і патронаў рассыпаліся чалавечыя косткі. Чарапы. Каскі — нашы, з чырвонай зорачкай. Хлапчукам яны аказаліся непатрэбнымі. Хлапчукам гуляць у вайну. Слухаць у школе пра подзвіг і патрыятызм. Мы расцём патрыётамі. Мы расцём патрыётамі!**

**Пятра Панамарова расстрэльвалі неаднойчы. Забіваць яго пачалі ў 37-ым, калі пад сваімі кулямі ляглі тыя, хто мог навучыць прафесіянальнаму воінскаму майстэрству зусім яшчэ хлапчука, выпраўленага супраць жалезнай моцы ворага, хто мог таленавіта распарадзіцца сілай наяўнай зброі і ваеннай тактыкі. Потым яго расстраляў фашыст.**

**Ён абараніў гэты край — пяшчотны рускі юнак з русаю галавой. Сваёй зямлі мы не збераглі самі — злым палыновым попелам засыпала яе ўсю, да апошняй пядзі, чорная красавіцкая навала 86-га. Галовы жывых і магілы мёртвых. Юны артылерыст сваім жыццём і сваёй узвышанай смерцю паказаў нам: слабых ва ўсе часіны трэба абараняць. Ці пастуціць моцная дзяржава гэтак жа высакародна да абдзеленых лёсам — каторы раз! — сваіх грамадзян! Вось у чым твае ўрокі, Пятро.**

**Бо тыя хлапчукі, якіх упарта ахопліваюць патрыятычным выхаваннем, і самі аказаліся безабароннымі перад бядою.**

**Дзесьці будуць сёння шматтысячныя ўрачыстасці — жалобныя мітынгі. З'едзецца свет у слаўны наш Брэст, асвеціцца салютам гераічны Мінск. Ім пашанцавала болей — знайшліся таленавітыя пісьменнікі, што прапусцілі людскія лёсы і боль праз свае душы, зрабілі герояў бліжэйшымі да нас. А Магілёў! А сотні вялікіх і маленькіх нашых райцэнтраў, безліч высотаў!**

**... Я еду да сціплага помніка на ўскрайку поля. Ён зноў сустрэне мяне першым — рускі хлопец з далёкай Волгі. Чысты твар, ясныя вочы, адкрытае для дабрыні сэрца. Паглядзіце, людзі: гэта мы перад сорак першым...**

**Людміла РЫЖАНКОВА.**

# 1991

# ВЕТЭРАНЫ Ў МАЛАДЫМ СТРАІ

БРЭСТ, 21 чэрвеня. (БЕЛТА). Песні ваеннага часу гучалі сёння ў размяшчэнні часцей Брэсцкага гарнізона. Іх разам спявалі цяперашнія воіны і ветэраны Вялікай Айчыннай, якія прыбылі да іх на сустрэчу. Старым салдатам паўвека назад давялося прыняць на Прыбужскай зямлі свой першы бой, страціць тут нямала дарагіх сяброў.

Сумны юбілей сабраў у Брэсце больш як 600 абаронцаў легендарнай цытадэлі, удзельнікаў баёў у прыгранiччы з розных куткоў краіны. Хлебам-соллю, нізкім паклонам іх сустракалі працоўныя горада. Музыкай духавых аркестраў і роўным салдацкім строем — тыя, хто цяпер нясе ратную эстафету старэйшага пакалення. Салдаты і афіцэры запрасілі сваіх гасцей у музей баявой славы, паказалі чырвоныя куткі, казармы, пачаставалі салдацкай кашай. З цікавасцю азнаёміліся былыя франтавікі з узорамі сучаснай ваеннай тэхнікі, цёпла ўспаміналі сваю зброю саракавых гадоў, якой у першыя часы вайны ім давялося адбіваць раптоўны націск ворага. І хоць многіх сучасных машын, ракет, рыштунку ім бачыць яшчэ не даводзілася, але гутаркі маладых і старых вяліся пры поўным узаемаразуменні, з веданнем справы.

— Такія сустрэчы запамінаюцца надоўга, — сказаў афіцэр Брэсцкага гарнізона Сяргей Кузняцоў. — Мы далучыліся да жывой памяці нашай гераічнай гісторыі, да неўміручага подзвігу бацькоў і дзядоў. Іх мужнасць, беззапаветнае служэнне Айчыне — сёння прыклад для воінаў, якія ахоўваюць мірнае жыццё людзей.

У заключэнне сустрэчы — фатаграфіі на памяць. Яны папоўняць экспазіцыі музеяў баявой славы, асабістыя альбомы воінаў і ветэранаў.

Сёння ж у другой палавіне дня ў грамадска-палітычным цэнтры адбылася сустрэча ветэранаў з кіраўнікамі горада і вобласці. Былі ўручаны баявыя ўзнагароды ветэранам Вялікай Айчыннай вайны. Два ордэны Славы і два медалі «За адвагу» знайшлі сваіх уладальнікаў праз паўвека. Франтавікам іх уручыў член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Камісіі па законнасці, пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю М. Грыб.

На гэтай сустрэчы выступіў член Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў.

Затым госці прынялі ўдзел у адкрыцці мемарыяльнай дошкі на вуліцы Героя Савецкага Саюза маёра Гаўрылава — аднаго з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці. Мемарыяльны знак быў адкрыты таксама на месцы баёў 131-га артпалка на тэрыторыі цытадэлі.

Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел таксама сакратар ЦК КПБ А. Русецкі, старшыня Беларускага рэспубліканскага савета ветэранаў вайны і працы А. Андрэеў.

# Прадпрымальнікі супраць кааператараў, або Развод па-бізнесменску?

**На фоне пасяджэнняў Вярхоўнага Савета рэспублікі гэта падзея не такая прыкметная. І тым не менш: 19 чэрвеня адбыўся ўстаноўчы з'езд саюза прадпрымальнікаў БССР. Такім чынам, у грамадска-палітычным атласе рэспублікі з'явілася яшчэ адна арганізацыя, з якой трэба звязваць надзеі на развіццё прадпрымальніцтва, бізнесу.**

Учора на прэс-канферэнцыі для журналістаў, прысвечанай гэтай падзеі, прэзідэнт новага саюза У. Карагін адзначыў, што яны будуць садзейнічаць ураду ў раздзяржаўленні і прыватызацыі, наладжванні рыначнай інфраструктуры, аказваць усялякую дапамогу прадпрымальнікам, у тым ліку і фінансавую (за кошт сродкаў Беларускага філіяла Савецкага фонду развіцця і падтрымкі малых прадпрыемстваў), у стварэнні страхавых таварыстваў, аўдытарскіх фірм і г. д. У планах таксама «наступленне на фронце эканамічнай непісьменнасці», садзейнічанне таварыству спажыўцоў, стварэнне (на гэта варта звярнуць асаблівую ўвагу) бюро па працаўладкаванню...

Па словах У. Карагіна, члены новага саюза мяркуюць нямала ўвагі ўдзяліць пытанням... маралі: яны збіраюцца строга сачыць за чысцінёй сваіх радоў, чысцінёй новага бізнесу.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# НАПЯРЭДАДНІ І СПАЧАТКУ

«Круглы стол» у Інстытуце гісторыка-палітычных даследаванняў аб пачатку вайны

**Адкрыў пасяджэнне вядучы, доктар гістарычных навук, прафесар Р. Платонаў: У даследчыкаў, якія займаюцца ваеннай праблематыкай, склаліся пэўныя падыходы, нейкая схема аналізу тых трагічных падзей, якімі адзначаны пачатак Вялікай Айчыннай вайны савецкага народа супраць гітлераўскай Германіі.**

**Мы маглі б кіравацца гэтай схемай і сёння, і гаварыць было б аб чым, таму што з кожным днём абнародуюцца ўсё новыя і новыя дакументы, што сведчаць: многія падзеі пярэдадня 22 чэрвеня 1941 г. дагэтуль застаюцца ахутанымі таямніцай для гісторыкаў. Але ўсё ж хацелася б перавесці дыскусію ў плоскасць канкрэтнай размовы аб тым, як бачацца з пункту погляду сучаснага ўзроўню ведаў абстаноўка перадваеннага часу, першыя гадзіны і дні вайны на фоне нашай рэспублікі, якая апынулася на вастрыні галоўнага ўдару фашысцкіх армій.**

**Зададзімся пытаннем, ці адчувалі ўсё ж у нас, у Беларусі, непазбежнасць уварвання! Ці рыхтаваліся ў рэспубліцы да вайны! Чаму так няўдала склаліся першыя бітвы для войск Заходняй асобай ваеннай акругі, якая заўсёды ў краіне лічылася ў радзе лепшых! Як успрыняў паведамленне аб пачатку вайны ЦК КПБ! Я ні ў якім выпадку не стаўлю пад сумненне тую ролю, якую адыграла Кампартыя Беларусі па мабілізацыі народа рэспублікі на адпор агрэсару. Але ўсё ж, ці была спачатку разгубленасць, ці адразу пайшло ўсё гладка! Як насельніцтва рэспублікі сустрэла і пачатак вайны, і ўварванне акупантаў!**

**А. ТОЗІК, кандыдат гістарычных навук, дацэнт:** Я павінен сказаць, што ў распараджэнне гісторыкаў пакуль не паступіла хоць колькі-небудзь прыкметных масіваў невядомых фактаў, і тое новае, што адбываецца ў гістарычнай навуцы, заключаецца ў асноўным у пераасэнсаванні ўжо знаёмых нам падзей і з'яў. На жаль, няжжытыя дагэтуль адназначныя ацэнкі, вузкасць і аднабаковасць базы крыніц, недахоп, калі не сказаць больш, метадалагічнай культуры часцей за ўсё становяцца асновай таго, што пераасэнсаванне зводзіцца ад пераходу ад усеагульнага і абсалютнага ўхвалення мінулага да яго ацэнкі са знакам мінус. Такая крайнасць не менш небяспечная, чым ранейшыя ўяўленні, асабліва для пакалення, што ўступае цяпер у жыццё.

На маю думку, у нас няма падстаў для сур'ёзных, прынцыповых перамен у галоўных вывадах. Змены, хутчэй за ўсё, будуць насіць дадатковы, удакладняючы характар, выходзячы за межы вузкакласавага палітычнага падыходу, арыентуючыся на сучасныя ўяўленні аб вечных каштоўнасцях чалавечага жыцця.

### НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ ВАЙНЫ БАЧЫЛІ, РЫХТАВАЛІСЯ, АЛЕ...

**У. ЛЕМЯШОНАК, доктар гістарычных навук:** Трэба рашуча адкінуць версію, быццам краіна не рыхтавалася да вайны. Ваенная сутычка з імперыялізмам лічылася непазбежнай (у 30-я гады называлі канкрэтна з кім — германскім фашызмам, пра гэта пісалі адкрыта, былі кінафільмы, кнігі і г. д.), да яе рыхтавалі насельніцтва. Спашлюся на дастаткова пераканаўчыя, на мой погляд, паказчыкі напрамку індустрыяльнага развіцця: расходы на абарону СССР у першай пяцігодцы раўняліся 5,5 працэнта ад дзяржбюджэту, у другой — 12,7, а ў трэцяй планаваліся на ўзроўні 26,4.

А як расцаніць меры па павышэнню мабілізацыйнай гатоўнасці прамысловасці, узмацненню арганізаванасці і дысцыпліны, у тым ліку пастанову СНК СССР, ЦК ВКП(б) і ВЦСПС ад 28 снежня 1938 г., накіраваную на ўзмацненне працоўнай дысцыпліны, барацьбу з дэзарганізатарамі вытворчасці, летунамі, прагульшчыкамі? У калгасах былі ўстаноўлены абавязковыя нормы выпрацоўкі працадзён. Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 26 чэрвеня 1940 г. былі ўведзены 8-гадзінны рабочы дзень (замест 7-гадзіннага) і 6-дзённы рабочы тыдзень. Тым жа Указам забараняўся самавольны ўход рабочых і служачых з прадпрыемстваў і ўстаноў. Была ўстаноўлена крымінальная адказнасць за прагул і самавольнае пакіданне работы.

З лета 1940 г. у краіне існавала суровая, небывалая ва ўмовах мірнага часу дысцыпліна. Рашэнні былі жорсткія нават па тым часе.

Можна прывесці дастаткова шмат фактычнага матэрыялу, які паказвае вялікую абаронна-патрыятычную работу Асаавіяхіма, Таварыства Чырвонага Крыжа, Наркамата аховы здароўя, партыйных, камсамольскіх арганізацый. Пры сельсаветах ствараліся асаавіяхімаўскія пасты паветранага назірання, якіх к лютаму 1941 г. было 664. ЦК КП(б)Б 26 мая 1941 г. прымае рашэнне «Аб арганізацыі на тэрыторыі Беларусі пастаянных груп і атрадаў па знішчэнню авіядэсантаў праціўніка». У адпаведнасці з пастановай ЦК у пачатку 1941 г. у большасці раёнаў рэспублікі праводзіліся ваенна - тактычныя вучэнні. Толькі ў Смалявіцкім і Чэрвеньскім раёнах у іх удзельнічала 15 тыс. чалавек. Шырокаму разгортванню абаронных мерапрыемстваў садзейнічалі створаныя ў 1939 годзе ў партыйных і камсамольскіх органах ваенныя аддзелы.

**М. ШУМЕЙКА, кандыдат гістарычных навук:** Я хацеў бы дадаць, што ўрад рэспублікі, сапраўды, нямала рабіў для ўмацавання абараназдольнасці заходніх рубяжоў. Акрамя выдзялення з рэспубліканскага бюджэту сродкаў на стварэнне процiпаветранай абароны ў гарадах Заходняй Беларусі, на вучэнні па адпрацоўцы прыёмаў абароны ад паветраных налётаў, ваенную перападрыхтоўку кіруючых партыйных, савецкіх, гаспадарчых работнікаў і іншыя меры ваеннаабароннага характару і патрыятычнага выхавання, пад кантролем ЦК КП(б)Б, партыйных органаў пастаянна знаходзілася будаўніцтва ўмацаваных раёнаў.

**Р. ПЛАТОНАЎ:** У другім нумары навукова - інфармацыйнага бюлетэня «Партийный вестник», які з гэтага года рыхтуецца інстытутам, мы змясцілі шэраг дакументаў да 50-годдзя пачатку Вялікай Айчыннай вайны. У іх ліку дакладная запіска і пісьмо першага сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі І. Сталіну: «Аб стане будаўніцтва ўмацаваных раёнаў і неабходных мерах дапамогі» ад 9 чэрвеня 1941 г. і «Аб ходзе аэрадромнага будаўніцтва ў Беларусі» ад 20 чэрвеня 1941 г. У іх прыводзяцца такія даныя. За красавік і май 1941 г. забетанiравана 217 абарончых збудаванняў (127,7 прац. ад задання Генштаба); акрамя 550 наяўных на граніцы забетанаваных збудаванняў, пабудавана 909 збудаванняў палявога даўзмацнення; акрамя аэрадромаў, якія ўзводзіліся па лініі НКУС, было разгорнута будаўніцтва 39 аэрадромаў і пачата падрыхтоўка да стварэння яшчэ 34.

Але не гэта было галоўным у запісцы і пісьме. Асноўную ўвагу Сталіна іх аўтар прыцягваў да неразбярыхі, нерастаропнасці, парушэнняў планаў паставак узбраення, зрыву намечаных тэрмінаў здачы аб'ектаў, нізкай якасці работ. І, зразумела, прапаноўваў меры па ўвядзенню работ у нармальны графік, узмацненню дапамог з боку рэспублікі.

**М. ШУМЕЙКА:** На жаль, таго, што рабілася, аказалася яўна недастаткова. Акрамя фармальнага, у многіх выпадках, падыходу наогул дрэнна ўлічваліся сілы патэнцыяльнага праціўніка. Негатыўную ролю адыграў зыходзячы з Цэнтра і ўзмоцнена раздуты на месцах вобраз «непераможнай Чырвонай Арміі». Тая лёгкасць, з якой прайшоў паход у Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну, здавалася, пацвярджала гэты тэзіс. Гэта выклікала ў насельніцтва пачуццё самазаспакоенасці.

У цэлым, калі меркаваць па захаваных дакументах пярэдадня вайны, сведчаннях удзельнікаў і відавочцаў падзей таго часу, грамадска - палітычная абстаноўка ў рэспубліцы характарызавалася раздвоенасцю свядомасці яе насельніцтва, пэўнай збянтэжанасцю пачуццяў у людзей, нарастаючай трывогай, чаканнем небяспекі, асабліва ў заходніх раёнах. З аднаго боку, афіцыяльная прапаганда запэўнівала, што вайны не будзе, што чуткі пра яе зыходзяць з варожых крыніц, распаўсюджваюцца панікёрамі. Чаго варта было толькі адно паведамленне ТАСС ад 14 чэрвеня 1941 г., якое выклікала збянтэжанасць у розумах і ваенных, і многіх людзей, неразуменне таго, што адбываецца! А да гэтага быў дагавор аб ненападзенні, падпісаны ў Маскве 23 жніўня 1939 г., які з'яўляецца і сёння прадметам бурных дыскусій, вядомы цяпер і сакрэтны дадатковы пратакол да яго. Было і заігрыванне з Германіяй. А з другога боку, у пагранічных, ды і не толькі пагранічных войсках, людзі мелі і іншую інфармацыю, якая паступала з-за Буга. Бачылі затрыманых дыверсантаў, перабежчыкаў, са страхам глядзелі на залятаўшыя на нашу тэрыторыю самалёты з чорнымі крыжамі.

Па-рознаму ўспрымаліся і заключаныя з Германіяй дагаворы: адны — з недаўменнем, другія — з непрыязнасцю. Апошняя, зразумела, адкрыта не выказвалася, бо ў памяці яшчэ былі свежыя рэпрэсіі 1937—1938 гадоў. І ўсё ж пісьмы (і не адзінкавыя), якія перахоплівалі органы дзяржбяспекі, гаварылі пра тое, што многія ў рэспубліцы ставілі пад сумненне мэтазгоднасць супрацоўніцтва з фашысцкай Германіяй, бачылі ў ім не толькі падрыў прэстыжу Савецкага Саюза, але і прамую пагрозу яго бяспецы, свайму жыццю. Аб блізкай вайне гаварылі ўсюды, цыркуліравалі чуткі пра дзень яе пачатку. Раслі чэргі за хлебам, соллю, запалкамі, адзеннем.

**У. ЛЕМЯШОНАК:** Ці ведалі аб гэтым у ЦК КП(б)Б?

**М. ШУМЕЙКА:** Безумоўна, ведалі. Туды сцякалася разнастайная інфармацыя, уключаючы і спецпаведамленні. Я назаву толькі дакладную запіску нам. наркома дзяржбяспекі БССР С. Духовіча аб падрыхтоўцы фашысцкай Германіяй нападзення на СССР (ад 11 чэрвеня 1941 г.), спецпаведамленне разведаддзела штаба Заходняй асобай ваеннай акругі аб гэтым жа (ад 3 чэрвеня 1941 г.). А хіба не аб занепакоенасці сведчыць разгляд 14 мая 1941 г. на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б даклада камандуючага войскамі акругі генерала арміі Д. Р. Паўлава «Аб абстаноўцы на граніцы і стане войск акругі». І рашэнне было прынята, прычым аб выніках П. Панамарэнка па тэлефоне далажыў Сталіну. Паводле сведчання тагачаснага сакратара ЦК па кадрах М. Аўхімовіча, які ўдзельнічае ў нашым абмеркаванні, размова цягнулася да 40 мінут. Як жа адрэагаваў Сталін? Ён сказаў—усё, пра што паведаміў Панамарэнка, — гэта спробы справакаваць вайну, таму на правакацыі не паддавацца, не панікаваць, трымаць нервы ў кулаку, нападзення Германіі не будзе.

Можа быць, таму ЦК і накіраваў у Беласток групу сваіх адказных работнікаў, якая, арыентуючыся на ўстаноўкі зверху, супакойвала насельніцтва вобласці?

Ці не ў гэтым прычына таго, што, нягледзячы на рэальныя меры па падрыхтоўцы да вайны, і войскі акругі, і жыхары рэспублікі аказаліся засцігнутымі знянацку нападзеннем? Напэўна, час ужо адкінуць міф аб раптоўнасці вайны.

**У. ЛЕМЯШОНАК:** Я б мог прывесці нямала сведчанняў таго, што раптоўнасці нападзення, па сутнасці, не было. Савецкія ваенныя разведчыкі, дыпламатычныя работнікі, сумленныя людзі з-за рубяжа, якія спачувалі краіне, шырокую неабходную інфармацыю, аж да назвы дня і гадзіны нападзення, паведамілі ў Маскву, і яна лягла на стол Сталіна. Толькі ў яго былі свае ўяўленні аб усім, што адбывалася. І знаходзіліся тыя, хто яму «падыгрываў», і з яго акружэння, і з кіраўніцтва ваеннай разведкі, з Генеральнага штаба. Але, перш за ўсё, з ведамства Берыя, які абяцаў «сцерці ў лагерны пыл» тых, хто, як ён пісаў Сталіну, з'яўляецца «памагатымі міжнародных правакатараў, якія жадаюць пасварыць нас з Германіяй».

**Р. ПЛАТОНАЎ:** У заключэнне гэтай часткі дыскусіі хацелася б сказаць наступнае.

Даследчыкі ўсё больш схіляюцца да вываду аб тым, што напярэдадні вайны вялася буйная ваенна - палітычная гульня, і ўсе праходзіўшыя падзеі, заключаныя дагаворы, заявы і г. д. укладваліся ў яе правілы. І Сталін, і Гітлер, запэўніваючы адзін аднаго ў асабістых сімпатыях, у той жа час цвёрда ведалі, што смяротная сутычка непазбежна.

Сталін, разумеючы негатоўнасць краіны і арміі да вайны, у тым ліку і па яго асабістай віне, усімі сіламі імкнуўся адцягнуць сутыкненне хоць бы да 1942 года, нават быў гатовы пайсці ў імя гэтага на «новы Брэст». Яго палохала небяспека, што генералы самі развяжуць ваенныя дзеянні. Вядомы пісьменнік В. Пікуль у сваім апошнім рамане-роздуме «Барбароса» прыводзіць факты, калі чырвонаармейцам на заходняй граніцы выдаваліся да вінтовак халастыя патроны. Інакш не дай Бог адбудзецца выпадковы стрэл! Да таго ж разлік будаваўся на тым, што спачатку Германія нападзе на Англію. Гітлер жа баяўся ўпусціць час.

У канчатковым выніку Гітлеру ўдалося «перайграць» Сталіна. Але, выйграўшы спачатку, ён прайграў па вялікаму рахунку—усю вайну. Стратэгічны выйгрыш аказаўся за Сталіным. Але якой цаной! Гэта цана — 26—27 мільёнаў жыццяў савецкіх людзей, у тым ліку 8,7 мільёна загінуўшых на палях бітваў, памёршых ад ран, загінуўшых у фашысцкіх концлагерах.

### БЫЛІ НЕ ТОЛЬКІ АГУЛЬНЫЯ, АЛЕ І ЗУСІМ КАНКРЭТНЫЯ ПРЫЧЫНЫ ВАЕННЫХ ПАРАЖЭННЯЎ

**У. ЛЕМЯШОНАК:** Вядома, што ўжо ў самым пачатку вайны войскі Заходняй асобай ваеннай акругі (з 22 чэрвеня — Заходняга фронта), якія прыкрывалі адзін з галоўных стратэгічных напрамкаў на шляхах уварвання гітлераўскіх армій, панеслі вялікія страты ў людзях і тэхніцы. З 44 дывізій 24 былі разбіты, астатнія пазбавіліся да палавіны асабовага саставу і ўзбраення, а ВПС—1797 самалётаў.

Што ж прывяло да такой катастрофы? Па сваёй жа колькасці і магутнасці акруга ўступала толькі Кіеўскай — у ёй налічвалася 672 тыс. байцоў і камандзіраў, на ўзбраенні было 10 тыс. гармат і мінамётаў, 2,2 тыс. танкаў, хоць і ўстарэлых узораў, 1,9 тыс. самалётаў, з іх 424 новыя. Акрамя гэтага, на заходніх рубяжах Беларусі размяшчалася 11 пагранічных атрадаў, якія мелі 19,5 тыс. чалавек. Сіла, як бачым, вялікая. І, тым не менш, ужо на шосты дзень вайны вораг быў у сталіцы рэспублікі.

Прычын, зразумела, многа, і поўнага аналізу іх яшчэ няма. Гісторыкі, карыстаючыся новымі дакументамі, толькі-толькі падыходзяць да яго.

Ваенныя спецыялісты ўказваюць на тое, што да пачатку вайны большасць злучэнняў гэтай вялікай масы войск, а таксама ўся 13-я армія, былі ў стадыі рэарганізацыі, пераўзбраення, перафарміравання. Значная частка заставалася неўкамплектаванай асабовым саставам (31—71 працэнт патрэбнасці), аснашчанай зброяй і тэхнікай устарэлых узораў. З шасці ствараемых механізаваных карпусоў поўнасцю матэрыяльную частку меў толькі адзін — 6-ы. Укамплектаванасць афіцэрамі - танкістамі складала 45—55 працэнтаў, сяржантамі — 19—36. Забяспечанасць тылавых органаў транспартам не перавышала 40—45 працэнтаў. Зенітнае прыкрыццё было нікчэмным або ніякім. Сувязь—у асноўным тэлеграфныя і тэлефонныя лініі Наркамата сувязі. Армейскіх і аэрадромных радыёстанцый было 26—27 працэнтаў ад патрэбнасці, карпусных і дывізіённых — 7. Сам штаб акругі рухомых сродкаў сувязі не меў. Як было кіраваць войскамі пры такім становішчы?

Словам, зразумела, чаму Сталін хацеў любымі шляхамі адцягнуць пачатак вайны.

**А. ЯЦЭНКА, генерал-лейтэнант у адстаўцы:** Дыслакацыя войск таксама была вымушанай. Яна часта падпарадкоўвалася не аператыўным меркаванням, а вызначалася наяўнасцю казарм і памяшканняў, прыгодных для размяшчэння чырвонаармейцаў. Камандзіры жылі на кватэрах з сем'ямі, удалечыні ад сваіх падначаленых, на выходныя дні адпускаліся з часцей.

Але ў даным выпадку хацеў бы ўказаць на пралікі і больш буйнога, стратэгічнага плана.

Хоць яшчэ восенню 1940 г. аператыўна - мабілізацыйны план быў грунтоўна перапрацаваны, набліжаны да задач войск на выпадак нападзення, аднак найбольш небяспечным напрамкам вызначаў Паўднёва-Заходнюю Украіну, а не Заходнюю Беларусь. Але менавіта на Заходнім напрамку Германія сканцэнтравала і ўвяла затым у дзеянне свае лепшыя, найбольш магутныя сілы, бо тут быў кароткі шлях да Масквы. Адной з прычын паражэнняў на гэтым напрамку і стала тое, што перад вайной 10-я армія, а таксама шэраг іншых часцей былі размешчаны ў Беластоцкім выступу, увагнутым у бок праціўніка. Такая канфігурацыя стварала пагрозу глыбокага ахопу і акружэння арміі з боку Гродна, Брэста, шляхам удару па флангах, што і зрабіў праціўнік. Гэта армія і прымыкаючыя да яе флангі 3-й і 4-й армій, аказаліся пад пагрозай акружэння, не змаглі адысці на тылавыя рубяжы, дзе яны маглі б узмацніць супраціўляльнасць дзеючых там злучэнняў. Да таго ж высокія тэмпы наступлення праціўніка і слабая матарызацыя Чырвонай Арміі пазбаўлялі войскі наогул магчымасці своечасова выходзіць з-пад удараў ворага, яны траплялі ў акружэнне.

**У. ЛЕМЯШОНАК:** Дадам: па інструкцыях дзеянні войскаў прыкрыцця дазваляліся ў дзень аб'явы або пачатку вайны, да гэтага яны не павінны былі прыводзіцца ў баявую гатоўнасць. Дырэктыву за подпісам Паўлава, Фаміных і Клімаўскіх аб неабходнасці ў сувязі з абазначанымі з боку немцаў масавымі ваеннымі дзеяннямі ўзняць войскі і дзейнічаць па-баявому 4-я армія атрымала ў 6 гадзін раніцы, калі яе часці ўжо на працягу двух гадзін вялі баі. Камандаванне акругі, як відаць, не ведала, што адбывалася на граніцы і паступала па інструкцыі, да таго часу страціўшай сілу. Адначасова яно працягвала дубліраваць указанні з Цэнтра: не паддавацца правакацыі! Толькі праз паўтары гадзіны пасля пачатку ўварвання камандаванне ўсвядоміла, што пачалася вайна.

**А. ЯЦЭНКА:** Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што Сталін адмовіўся падпісаць падрыхтаваную Генеральным штабам дырэктыву ад 12 чэрвеня аб прывядзенні войск у баявую гатоўнасць, палічыўшы яе заўчаснай. Такімі ж беспаспяховымі былі спробы кіраўніцтва Чырвонай Арміі пераканаць яго ў неабходнасці неадкладнага прывядзення войск у такую гатоўнасць аж да вечара 21 чэрвеня, калі адпаведны дазвол, і то з агаворкамі, усё ж, нарэшце, быў дадзены. Час, аднак, быў упушчаны.

**У. ЛЕМЯШОНАК:** Атрымліваючы вельмі бедную і ўрывачную інфармацыю аб абстаноўцы, камандаванне акругі ў першай палавіне дня 22 чэрвеня ніякіх кардынальных рашэнняў не прыняло, усе распараджэнні, якія аддаваліся яго штабам, насілі толькі прыватны характар. Адбіліся адсутнасць авіяцыйнай разведкі, сувязі з агентурнай разведкай, разрыў правадной сувязі з войскамі, няздольнасць наладзіць з імі радыёсувязь і сувязь рухомымі сродкамі.

**М. АЎХІМОВІЧ, напярэдадні і ў гады вайны сакратар ЦК КПБ:** Я не па чутках ведаю, што камандаванне акругі ўжо раніцай 22 чэрвеня поўнасцю страціла кіраванне войскамі. Мне гэта вядома больш дакладна таму, што на першым жа пасяджэнні бюро ЦК у кабінеце Панамарэнкі да дзяжурства па Цэнтральнаму Камітэту былі прыцягнуты ўсе сакратары, і па алфавіту першым дзяжурыў я. Памятаю, што раніцай 22-га і на працягу ўсяго дня камандуючы акругі Паўлаў, стаўшы аўтаматычна камандуючым фронта, сувязі з войскамі не меў. Інфармацыю аб абстаноўцы ў заходніх абласцях, ды і не толькі ў заходніх, мы ўрывачна атрымлівалі ад абкомаў партыі.

Як толькі стала вядома, што аэрадромы, аэрадромныя пляцоўкі, пабудаваныя перад вайной, а іх у рэспубліцы стваралася да 100, амаль усе знішчаны або захоплены немцамі, камандуючы ВПС акругі генерал Копец прыкладна ў 9 гадзін раніцы 22 чэрвеня застрэліўся ў сябе ў кабінеце.

**М. ШУМЕЙКА:** Уяўленне аб тым, што адбывалася ў арміях і дывізіях, у пэўнай меры можна скласці па інфармацыі сакратара Брэсцкага абкома партыі Тупіцына, накіраванай ім 25 чэрвеня 1941 г. у ЦК КП(б)Б. Прывяду з яе некалькі вытрымак:

**«Брэсцкі абком КП(б)Б лічыць неабходным інфармаваць Вас аб становішчы на фронце Брэст - Кобрынскага напрамку. ...Кіраўніцтва 4-й арміі аказалася непадрыхтаваным арганізаваць і кіраваць ваеннымі дзеяннямі. Гэта пацвярджаецца цэлым шэрагам фактаў. Уварванне нямецкіх войск на нашу тэрыторыю адбылося так лёгка таму, што ні адна часць і злучэнне не былі гатовы прыняць бой, яны вымушаны былі або ў беспарадку адступаць, або загінуць. У такім становішчы аказаліся 6 і 42 стр. дывізіі ў г. Брэсце, і 49 стр. дывізія ў Высокаўскім раёне.**

**У Брэсцкай крэпасці на самай граніцы трымалі 2 стр. дывізіі, якім нават у мірных умовах патрэбна было многа часу для таго, каб выйсці з гэтай крэпасці і разгарнуцца для ваенных аперацый. Акрамя таго, нягледзячы на сігнал ваеннай небяспекі, камандны састаў жыў у горадзе на кватэрах. Натуральна, пры першых стрэлах сярод чырвонаармейцаў стварылася паніка, а магутны шквал агню нямецкай артылерыі хутка знішчыў 2 дывізіі. Па расказах чырвонаармейцаў, якім удалося выратавацца, заслугоўвае ўвагі і той факт, што не ўсе часці і злучэнні мелі патроны, не было патронаў у байцоў.**

**...У выніку з першых жа дзён ваенных дзеянняў у часцях 4-й арміі пачалася паніка. Засцігнутыя раптоўным нападзеннем, камандзіры разгубіліся. Можна было назіраць такі малюнак, калі тысячы камандзіраў, пачынаючы ад маёраў і палкоўнікаў і канчаючы малодшымі камандзірамі, і байцоў уцякалі. Работнікі абкома партыі разам з групай пагранічнікаў спрабавалі затрымліваць уцекачоў з фронта.**

**...Абком і гарком КП(б)Б разам з абл. упраўленнямі НКУС і НКВД спрабавалі першы час навесці парадак у горадзе, але эфектыўна нічога зрабіць не змаглі, таму што чырвонаармейскія часці ў паніцы адступалі. Таму, не ведаючы абстаноўкі, не маючы сувязі з ваенным камандаваннем, не разлічваючы на баяздольнасць воінскіх часцей, мы вымушаны былі пакінуць г. Брэст».**

**Р. ПЛАТОНАЎ:** Вывад з усяго гэтага можа быць толькі адзін: вайна застала войскі акругі сапраўды знянацку. Яны ўступілі ў бітву стыхійна, у тым стане, у якім знаходзіліся напярэдадні 22 чэрвеня, без хоць бы мінімальнай гатоўнасці, аб якой так многа гаварылі, пісалі і нават спявалі. І віна тут як на камандзірах часцей, злучэнняў, так і самім камандаванні акругі, праявіўшым паўнейшую разгубленасць і некампетэнтнасць.

Вось калі адбіўся вялікі ўрон арміі і краіны, нанесены жорсткімі сталінскімі рэпрэсіямі. У Беларускай (Заходняй асобай) ваеннай акрузе гэтымі рэпрэсіямі амаль усе падрыхтаваныя і меўшыя вялікі вопыт практычнай работы камандныя кадры былі выведзены са строю. На іх месца прыйшлі камандзіры і палітработнікі без вопыту і ведаў, часта і без адукацыі. Многія з іх баяліся праявіць ініцыятыву, браць на сябе адказнасць у прыняцці рашэнняў. Палітыка шырокіх рэпрэсій супраць армейскіх кадраў мела яшчэ і тыя цяжкія вынікі, што яна падарвала аснову воінскай дысцыпліны. На працягу ж некалькіх гадоў камандзіраў і нават чырвонаармейцаў прывучалі да таго, каб «выкрываць» сваіх старэйшых камандзіраў як замаскіраваных ворагаў. Немалы сэнс ёсць у словах маршала А. М. Васілеўскага: «Без трыццаць сёмага года, магчыма, і не было б вайны ў сорак першым годзе. У тым, што Гітлер вырашыў пачаць вайну ў сорак першым годзе, вялікую ролю адыграла ацэнка той ступені разгрому ваенных кадраў, які ў нас адбыўся».

Народ, яго армія заплацілі за гэта ў гады Вялікай Айчыннай вайны вялікай крывёю.

**Р. ЧАРНАГЛАЗАВА, загадчыца партызанскага аддзела Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны:** Памылковая ацэнка сітуацыі і дылетанцкае кіраўніцтва ў пачатку вайны прывялі да таго, што вялікая колькасць нашых ваеннаслужачых аказалася ў палоне. У палон траплялі раненыя, кантужаныя, трапіўшыя ў акружэнне. Былі і «добраахвотнікі». Лёс іх усіх быў страшны. Іх расстрэльвалі, не давалі есці, выкарыстоўвалі на самых цяжкіх работах, прымушалі ўступаць у паліцэйскія фарміраванні.

З 260 фашысцкіх канцлагераў, створаных на тэрыторыі нашай рэспублікі, 60 з вялікай колькасцю філіялаў прызначаліся для ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Архіўныя дакументы захоўваюць страшную трагедыю гэтых лагераў. Так, у перасыльным лагеры ў Гомелі ўтрымлівалася каля 100 тыс. чалавек, большасць з якіх загінула, у лагеры на ст. Лясная былой Баранавіцкай вобласці гітлераўцы знішчылі больш 88 тыс., у Масюкоўшчыне пад Мінскам — 80, у лагеры Лупалава (Магілёў)—40 тыс. чалавек. А ўсяго на тэрыторыі Беларусі — да 800 тыс. чалавек. І цяпер працягваюць пошукавыя групы знаходзіць новыя месцы масавых захаванняў ваеннапалонных. Адно з апошніх выяўлена па Лагойскаму тракту пад Мінскам. Камісіі яшчэ трэба вызначыць, колькі там загінула людзей.

**В. КАРШУК, доктар гістарычных навук, прафесар:** Сёння можна пачуць, што цывілізаваныя арыйцы, маўляў, былі вымушаны знішчаць савецкіх ваеннапалонных таму, што Сталін не падпісаў Жэнеўскую канвенцыю аб адносінах да ваеннапалонных. І знаходзяцца людзі з ліку новаяўленых «дэмакратаў», якія лічаць такое «тлумачэнне» варварства зусім здавальняючым. Думаю, нічога, акрамя кашчунства, у ім няма. Гітлеру было напляваць на любыя канвенцыі, у адносінах да савецкіх людзей ён кіраваўся крытэрыямі, вельмі далёкімі ад элементарнага разумення чалавечнасці і маральнасці. Усяго ў 1941 годзе толькі палоннымі Савецкая Армія страціла 3,9 млн. чалавек, з якіх да пачатку 1942 года ў жывых засталося 1,1 млн.

У свеце мала хто верыў, што наша краіна зможа выстаяць пасля такіх страт. Але яна не толькі выстаяла, але і перамагла.

**П. ЛІПІЛА, кандыдат гістарычных навук:** Баі пад Магілёвам, якія цягнуліся з 3 па 26 ліпеня, заслугоўваюць таго, каб пра іх сказаць больш падрабязна. Магілёўская абарона ў перыяд кровапралітнай смаленскай бітвы амаль на месяц скавала правае крыло групы фашысцкіх армій «Цэнтр», якія рваліся да Масквы.

Яе значэнне я б абазначыў у трох вывадах:

па-першае, яе трэба разглядаць як важную частку смаленскай бітвы, адыграўшай вялікую ролю ў зрыве гітлераўскіх планаў «маланкавай вайны» супраць Савецкага Саюза. За час баёў было падбіта 24 самалёты праціўніка, спалены сотні танкаў і аўтамашын, знішчана 30 тысяч варожых салдат і афіцэраў, да 2 тыс. узята ў палон;

па-другое, магілёўская абарона паказала глыбока народны характар Вялікай Айчыннай вайны, сапраўды ўсенароднае супраціўленне захопнікам. Адначасова з воінамі 172-й дывізіі баі вялі 10 тыс. апалчэнцаў, атрады якіх былі створаны на прамысловых прадпрыемствах, ва ўстановах і навучальных установах горада. Больш 40 тыс. гараджан штодзённа працавалі на ўзвядзенні абарончых ліній вакол і ўнутры горада. На працягу сямі дзён яны пракапалі абарончы абвод даўжынёй 25 кіламетраў;

па-трэцяе, яшчэ не вывучана належным чынам роля воінаў, апалчэнцаў і гараджан, якія засталіся на акупіраванай тэрыторыі, у разгортванні на Магілёўшчыне магутнага партызанскага руху. А яны сталі і актыўнымі арганізатарамі патрыятычнага падполля ў горадзе, і ініцыятарамі стварэння партызанскіх атрадаў, баявымі дзеяннямі працягваўшымі традыцыі абароны.

**Р. ПЛАТОНАЎ:** Завяршаючы гэту частку дыскусіі, прывяду вытрымку з пісьма лейтэнанта германскай арміі Горбаха ад 21 жніўня 1941 года сваім родным. Гледзячы на ўсё, што адбываецца, вачамі фашысцкага афіцэра, адурманенага расісцкімі ідэямі, ён, тым не менш, не мог не выказаць здзіўлення мужнасцю і стойкасцю байцоў Чырвонай Арміі, спрабаваў зразумець прычыны іх пагарды да смерці:

«Вы пытаецеся, якой я думкі пра чырвоных. Я магу толькі сказаць, што іх паводзіны ў час бою неверагодныя. Не гаворачы пра настойлівасць, хітрасць і іх асадзісцкія (так у тэксце) метады баёў, аб чым там, у вас, ужо, верагодна, вядома, самае характэрнае — у іх — гэта надзвычайная, тупая настойлівасць. Я асабіста бачыў сваімі вачамі, калі яны ў час атакі нашай пяхоты, нягледзячы на моцны і сканцэнтраваны артылерыйскі агонь, не лічылі нават патрэбным класціся. Людская дзірка, якая ўзнікла ў выніку выбуху снарадаў, адразу ж запаўнялася ўслед ідучымі радамі; гэта працягвалася да таго часу, пакуль горы трупаў рускіх рабілі немагчымым іх далейшы рух. Гэта гучыць непраўдападобна, але я гэта даволі часта бачыў сам. Гэтыя паводзіны тлумачацца, мне здаецца, не толькі дзеяннямі камісараў і камісараў, якія стаялі за імі, а ў першую чаргу — гэта прадукт бальшавіцкага выхавання і выражэння бальшавіцкага светапогляду...»

### БЫЛА І РАЗГУБЛЕНАСЦЬ, АЛЕ СІТУАЦЫЮ ХУТКА ЎЗЯЛІ Ў РУКІ

**М. АЎХІМОВІЧ:** У пачатку дыскусіі было пастаўлена пытанне, аб тым, як сустрэў пачатак вайны ЦК КПБ. Раскажу пра першыя гадзіны і дні работы. Мы разумелі, што Германія вось-вось нападзе на нашу краіну. Інфармацыі, у тым ліку і з-за мяжы, было дастаткова, і пра яе ўжо гаварылася. Пра ўсё перадавалася ў Маскву, але адказы заставаліся стандартнымі: «Трымайце нервы ў кулаку, на правакацыі не паддавайцеся». Тым не менш, у суботу, 21 чэрвеня, нішто не ўказвала на набліжэнне трагедыі. У горадзе на наступны дзень намячалася адкрыццё Камсамольскага возера. Увечары людзі былі ў тэатрах, кіно, парках. Дарэчы, у Мінску гастраляваў МХАТ.

Я жыў на дачы, дзе раніцай, прыкладна паміж пяццю і шасцю гадзінамі, і празвінеў тэлефонны званок з патрабаваннем неадкладна прыбыць у ЦК. Тут П. К. Панамарэнка паведаміў аб пачатку вайны. У 9 гадзін 30 мінут адбылося пасяджэнне бюро, удзень, у 14 гадзін, у будынку дома партыйнай асветы прайшоў сход гарадскога партыйнага актыву, на якім з дакладам аб задачах ва умовах вайны выступіў П. К. Панамарэнка. На нарадзе ў сакратара ЦК В. Г. Ванеева былі дадзены распараджэнні падрыхтаваць эшалон на выпадак эвакуацыі, але да асаблівага ўказання яе не пачынаць, каб не даваць дурнога прыкладу. Эшалонам так і не карысталіся.

Адзначу выключную вытрымку мінчан у першы дзень вайны. Не было ні марадзёрства, ні панікі, ні грабяжоў. Камуністы, радавыя працаўнікі паводзілі сябе, як і належыць у час грознай небяспекі для Радзімы.

Спробы нямецкіх самалётаў 22—23 чэрвеня прарвацца да горада былі адбіты. Бамбардзіроўка горада пачалася раніцай 24 чэрвеня, які стаў да таго часу ўжо безабаронным. Для ЦК КПБ бомбасховішча не аказалася, яго абсталявалі ў спортклубе, на рагу вуліц Леніна і Інтэрнацыянальнай. Панамарэнка ўвесь час знаходзіўся на КП Заходняй акругі (фронта).

Увесь дзень 24 чэрвеня пад кіраўніцтвам Ванеева група работнікаў рыхтавала да эвакуацыі людзей, дакументы, маёмасць. А раніцай 25 чэрвеня ЦК КПБ, Вярхоўны Савет і ўрад пераехалі ў Магілёў і разгарнулі работу ў будынку абкома партыі. Там былі прыняты вядомыя дырэктывы аб падрыхтоўцы да пераходу на падпольную работу партарганізацый раёнаў, якія знаходзяцца пад пагрозай фашысцкай акупацыі і па разгортванню партызанскай вайны ў тыле ворага. 1 ліпеня ЦК перабазіраваўся ў Лёзна Віцебскай вобласці, затым пайшлі Рослаўль, Гомель, раён Арла (Бранскі фронт), нарэшце, Масква, дзе ён знаходзіўся да канца 1943 г.

**Р. ПЛАТОНАЎ:** Думаю, пры такім руху, увесь час «на нагах», кіраваць было цяжка.

**М. АЎХІМОВІЧ:** Вядома, за гэта была і крытыка, таму што некаторыя работнікі наогул адразу на аўтамашынах накіраваліся прама ў Маскву.

**Р. ПЛАТОНАЎ:** Вы маеце на ўвазе паведамленне постпрэда БССР у Маскве Фінагенава ад 4 ліпеня 1941 г. Маленкову Г. М. аб тым, што шэраг адказных партыйных, савецкіх, гаспадарчых работнікаў, уключаючы сакратароў ЦК Гарбунова, Прохарава, загадчыка аддзела Гласава, старшыню Мінскага аблвыканкома Цёмкіна, старшыню Вярхоўнага суда Сядых, на легкавых аўтамабілях, з сем'ямі, з'явіліся ў Маскве і толькі 2 ліпеня частка з іх была накіравана назад?

**М. АЎХІМОВІЧ:** Не толькі. Але, галоўнае, разгубленасць хутка прайшла. Сваю ролю ў наладжванні арганізаванай работы адыграла пісьмо П. К. Панамарэнкі ў адрас кіраўнікоў Беларускай ССР, накіраванае нам 29 верасня. П. К. Панамарэнка рэкамендаваў «перастаць качавацъ», выбраць пастаяннае месца, наладзіць моцныя сувязі. Асноўны састаў урада і ЦК павінен быць захаваны, але кожны загружаны работай. Асабліва ўважліва Панцелеймон Кандратавіч прасіў аднесціся да эвакуіраванай інтэлігенцыі, перш за ўсё да Я. Коласа, Я. Купалы, Л. Александроўскай і інш. Трэба неадкладна арганізаваць выпуск беларускай радыёгазеты праз станцыю «Камінтэрн», каб беларусы чулі свой голас, і г. д.

**А. ТОЗІК:** Характарызуючы летнія месяцы 1941 г., дзейнасць у гэты час партыйных, камсамольскіх, савецкіх, гаспадарчых органаў рэспублікі, хацелася выдзеліць шэраг, на мой погляд, важных момантаў.

Мы многа пішам пра гераічнае супраціўленне нашай арміі, народных апалчэнцаў, дзейнасць камуністаў і камсамольцаў. Гэта ўсё было. Але трэба сказаць і пра іншае. Гэта быў перыяд і глыбокага шоку, разгубленасці, каласальнага чалавечага гора і пакут. Мы аказаліся не падрыхтаванымі да такога развіцця падзей.

Рэспубліка і яе Кампартыя ў другой палавіне 30-х гадоў не рыхтавалася да партызанскай і падпольнай барацьбы на выпадак ваеннага сутыкнення з фашызмам. Хоць у канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў такая падрыхтоўка вялася. Але затым усё было спынена і забыта.

Партыйнае кіраўніцтва рэспублікі, аднак, дастаткова хутка (ужо на працягу першага тыдня вайны) усвядоміла непазбежнасць акупацыі і, адсюль, неабходнасць падпольнай і партызанскай барацьбы. Але да атрымання (раніцай 30 чэрвеня) вядомай дырэктывы Саўнаркома Саюза ССР і ЦК ВКП(б) ад 29 чэрвеня, дзе ўпершыню ставілася гэта задача, ініцыятывы не праяўляла. Атрымаўшы ж дырэктыву пачало дзенічаць дастаткова рашуча і эфектыўна. Ужо 30 чэрвеня ў партыйныя органы рэспублікі пайшла дырэктыва № 1 ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы да пераходу на падпольную работу. Лічу, што на працягу крыху больш паўтара месяцаў (да поўнай акупацыі рэспублікі) было зроблена максімум магчымага ў тых умовах.

...Выніковасць першых крокаў падполля рэспублікі павінна ацэньвацца, перш за ўсё, не колькасцю забітых ворагаў і ўзарваных аб'ектаў, а тым, што яно ўзнікла, захавала кадры, набыло падтрымку насельніцтва, усяліла ў яго ўпэўненасць. З вясны 1942 года гэта стала адной з асноўных умоў развіцця магутнага супраціўлення агрэсару.

**Р. ПЛАТОНАЎ:** Дапоўню сказанае тым, што Цэнтральны Камітэт Кампартыі рэспублікі, мясцовыя партыйныя органы аказалі дзейсную дапамогу і ваенкаматам у правядзенні мабілізацыі ваеннаабавязаных.

Да жніўня 1941 г. у рады Чырвонай Арміі ўступіла больш 500 тыс. жыхароў рэспублікі, у тым ліку 26,5 тыс. камуністаў і 130 тыс. камсамольцаў. На камандную і палітычную работу ў армію былі накіраваны 47 членаў і кандыдатаў у члены ЦК КП(б)Б, 18 членаў Рэўкамісіі, многія сакратары абкомаў, гаркомаў, райкомаў партыі. У чэрвені-жніўні ў гарадах Беларусі палкі народнага апалчэння і знішчальныя батальёны, у стварэнні якіх цяжка пераацаніць ролю партыйных органаў, налічвалі больш 73 тыс. чалавек. У складаных прыфрантавых умовах пад кіраўніцтвам ЦК у савецкі тыл былі эвакуіраваны больш 100 прамысловых прадпрыемстваў і да 1,5 млн. жыхароў Беларусі, якія разгарнулі там работу дзеля фронту.

Дарэчы, ужо з самага пачатку вайны яна набыла на тэрыторыі рэспублікі сапраўды ўсенародны характар.

